# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950 года

Аўторак, 15 лістапада 1994 года

№ 122 (10822)

Цана 50 руб.





## ВЫГОДНО БАНКУ, А ВКЛАДЧИК ВНАКЛАДЕ

Постановлением Кабинета Министров и Национального банка Республики Беларусь произведена деноминация белорусского рубля — в 10 раз. Будучи в принципе согласны с принятыми решениями, мы считаем, что эта акция существенно ущемила и нарушила право собственности вкладчиков Сберегательного банка. Особенно это затронуло сельских жителей и пенсионеров.

Суть в следующем. Деноминация коснулась не только тех вкладов, которые оформлялись в белорусских рублях, но и тех, которые были внесены в бывших союзных рублях. Вклады в союзных рублях обесценила инфляция, а действия Кабинета Министров и Национального банка уменьшили их сразу в 10 раз. Условно из 10 тысяч рублей, имевшихся, к примеру, на 01.01.91 г., осталось только 1.000 рублей. Такое решение ударило прежде всего по той категории людей (а это в основном пенсионеры и сельчане), которые, веря власти, продолжали хранить деньги в Сберегательном банке.

Кроме того, на наш взгляд, и с правовой точки зрения такое решение незаконно. Исходя из смысла и буквы постановления, оно должно было касаться только вкладов в белорусских рублях. В отношении остальных вкладов должен быть установлен другой порядок деноминации.

Мы понимаем, что Сберегательному банку такое решение выгодно. Пользуясь деньгами честных тружеников, получая доходы, возвращать надо в 10 раз меньше.

Поэтому, будучи не согласны с проведенной деноминацией в части изложенного, участники сессии областного Совета депутатов 14.09.94 г. приняли решение и обратились с письмом к Президенту Республики Беларусь Лукашенко А.Г. и Верховному Совету о защите интересов трудового народа, принятии законного и обоснованного решения о деноминации вкладов.

И, наконец, 10.10.94 г. на свое обращение получили ответ Министерства финансов за №11-47/993, который можно квалифицировать как образчик бюрократического творчества.

Естественно, согласиться с подобным «творчеством» Минфина мы не можем, потому что в нем отсутствуют ответы на поставленные вопросы. Удивляешься лишь умению чиновников уходить от прямого ответа.

Поэтому мы вынуждены, используя средства массовой информации, обратиться повторно к всенародно избранным президенту и Верховному Совету с предложением вернуться к решению данной проблемы. Этого ждет народ, честные люди, заработавшие деньги своим трудом.

*Василий ДЕМИДОВИЧ, председатель комиссии по законности, правопорядку и борьбе с преступностью Минского областного Совета депутатов.*

## АДКУЛЬ ГРОШЫ?

Аляксандр Лукашэнка, паведамляючы ў свой час аб павышэнні з 1 лістапада мінімальнай заработнай платы ў два разы, падкрэсліў, што выдзеленыя на гэтыя мэты сродкі зароблены беларускім народам. Такое сцвярджэнне выклікала нямала пытанняў як у насельніцтва, так і ў гаспадарнікаў і палітыкаў. Кім зароблены гэтыя грошы і як? Не сакрэт жа, што сітуацыя за апошні месяц у эканоміцы кардынальна не змянілася. Большасць прадпрыемстваў працуе не поўны рабочы тыдзень, закансервавана будаўніцтва многіх аб"ектаў, працягваецца абвал у сельскай гаспадарцы. Паводле прызнання прэзідэнта, яшчэ тры месяцы таму назад дзяржаўная казна была пустая. Адкуль жа ўзяліся грошы на павышэнне зарплаты?

Як заявіў, адказваючы на гэтае пытанне, прэм"ер-міністр Міхаіл Чыгір, грошы атрыманы ў выніку адмовы ўрада ад датацый на важнейшыя прадукты харчавання. Паводле яго слоў, павышэнне цэн на хлебабулачныя і малочныя вырабы прадухіліла масавы вываз гэтых прадуктаў з рэспублікі і тым самым прывяло да спынення імпарту беларускага бюджэту за мяжу. Зэканомленыя пры гэтым грошы і будуць выкарыстаны для павышэння зарплаты работнікаў бюджэтнай сферы.

Як паведаміў старшыня Нацыянальнага банка Станіслаў Багданкевіч, павышэнне мінімальнай зарплаты не прывядзе да росту дэфіцыту бюджэту.

*БЕЛІНФАРМ.*

## Аляксандр Лукашэнка: "Ніякага адыходу ад цяперашняга курса не будзе"

***У суботу, 12 лістапада, пад старшынствам прэзідэнта адбылося пасяджэнне Кабінета Міністраў, на якім абмяркоўвалася сацыяльна-эканамічная і палітычная сітуацыя ў Рэспубліцы Беларусь.***

Пасяджэнне ўрада праходзіла ў атмасферы шчырасці, сумленнасці, адкрытасці. Выступіўшы перад дыскусіяй з уступным словам, прэзідэнт назваў сітуацыю ў рэспубліцы надзвычайнай. За час яго адсутнасці рэзка падскочылі цэны на прадукты харчавання, Канстытуцыйны суд прыпыніў дзеянне Закона аб мясцовым самакіраванні, у барацьбе з прэзідэнтам аб'ядналіся розныя партыі ад самых левых да самых правых, апусцілі рукі старшыні абласных і раённых выканкомаў...

Усё гэта прэзідэнт ацаніў адназначна: пэўныя сілы на фоне росту цэн хочуць парушыць няўстойлівую раўнавагу. Каму патрэбна нестабільнасць у рэспубліцы? — паставіў пытанне Аляксандр Лукашэнка. І сам жа адказаў: "Тым людзям, якія сёння спяшаюцца працытавацца ў газетах, каб заўтра была магчымасць заявіць: маўляў, прэзідэнт у адплату прыслаў камісію для праверкі".

Прэзідэнт асабліва падкрэсліў небяспеку такіх дзеянняў. Не для яго асабіста. А для ўсёй рэспублікі: "Калі мы разладзім дзяржаўную машыну, то ніхто з намі размаўляць не будзе, і тады ўсё абваліцца".

Аляксандр Лукашэнка папракнуў членаў Кабінета Міністраў за тое, што яны далі дазвол на павышэнне цэн, не распрацаваўшы папярэдне і не запусціўшы ў дзеянне механізм сацыяльнай абароны маламаёмнай часткі насельніцтва, не дачакаўшыся нават таго моманту, з якога людзі пачнуць атрымліваць зарплату, што павысілася з 1 лістапада.

Адказваючы тым членам кабінета, якія тлумачылі рост цэн вывазам нашых параўнальна танных прадуктаў у сумежныя дзяржавы, прэзідэнт растлумачыў: цэны, магчыма, і трэба было павысіць, але спачатку неабходна выканаць дзве галоўныя ўмовы — абараніць насельніцтва і параіцца з ім. Тым больш у той момант, калі ў эканоміцы Беларусі намеціліся пэўныя зрухі. Аб іх гаварылі прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір, яго намеснікі Міхаіл Мясніковіч, Віктар Ганчар, іншыя прамоўцы. Паказальныя лічбы прывёў кіраўнік Кабінета Міністраў: калі ў жніўні ўзровень інфляцыі дасягнуў 53,4 працэнта, то ў верасні і кастрычніку ён знізіўся ўдвая, адпаведна 24,4 і 25,7 працэнта, калі ў першым паўгоддзі зніжэнне вытворчасці склала прыкладна 30 працэнтаў, то ў верасні і кастрычніку адпаведна 11 і 12 працэнтаў. Выконваюцца заданні па закладцы бульбы, агародніны, іншай прадукцыі, што дае падставы Міхаілу Чыгіру заявіць: "Прадуктамі харчавання будзем забяспечаны на нармальным узроўні". І яшчэ прэм'ер сказаў: Кабінет Міністраў гатоў выдзеліць мільярд рублёў грамадзянам, якія апынуліся ў выніку росту цэн у вельмі цяжкім становішчы.

Парадаваў і віцэ-прэм'ер Міхаіл Мясніковіч. Ён паведаміў, што за 9 месяцаў гэтага года экспарт тавараў з нашай дзяржавы перавысіў імпарт амаль на 270 мільёнаў амерыканскіх долараў.

Прэзідэнта асабліва цікавіла становішча спраў у гандлі. І таму ён запрасіў на трыбуну міністра гандлю Валянціна Байдака і старшыню праўлення Белкаапсаюза Рыгора Грышчанкова. І калі міністр паказаў сваю дасведчанасць, то кіраўніку кааперацыі прыйшлося парадкам пачырванець перад прысутнымі. Высветлілася, што старшыня праўлення не ведае сярэдняй зарплаты прадаўцоў у сельскіх магазінах. На што прэзідэнт адрэагаваў так: "Гэта ганьба!. У вас людзі атрымліваюць менш, чым калгаснікі. Але ў калгасе ёсць яшчэ натураплата. Вы ж самі падштурхоўваеце людзей да таго, каб яны кралі".

Абурыла кіраўніка дзяржавы і невыкананне яго асабістых распараджэнняў. Так, у гутарцы з прэзідэнтам Малдовы Мірчам Снегурам была дасягнута дагаворанасць — малдаване прададуць нам танныя садавіну і віно. Але ў Кішынёў так ніхто і не паехаў.

Асобнай тэмай прагучала на нарадзе барацьба з карупцыяй. Аб ёй гаварылі і сам прэзідэнт, і яго памочнік па асобых даручэннях Віктар Кучынскі, і генеральны пракурор Васіль Шаладонаў, і міністр унутраных спраў Юрый Захаранка, і старшыня КДБ Уладзімір Ягораў, і начальнік службы кантролю адміністрацыі прэзідэнта Васіль Даўгалёў, і іншыя ўдзельнікі пасяджэння.

Так, на думку Віктара Кучынскага, прававая беззаконнасць на сённяшні дзень пранікла ва ўсе сферы. "Пракруціць" грошы ўмудраюцца самымі цынічнымі спосабамі. Напрыклад, у Мінску пры навучальных установах створана каля 200 камерцыйных структур. У сталіцы з рознымі парушэннямі заканадаўства прадаюцца кватэры, праверка каля дзвюх тысяч гандлёвых прадпрыемстваў розных форм уласнасці паказала, што практычна ў кожным ёсць парушэнні, часта тавар прадаецца без ліцэнзій якасці, сотні мільёнаў рублёў праходзяць міма касавага апарата, а гэта значыць, што дзяржаўная казна пазбаўляецца значных сум, якія маглі б быць выкарыстаны для дапамогі маламаёмным.

Усплыў на нарадзе і такі факт. У вытворчым аб'яднанні "Гарызонт" умудрыліся стварыць ажно 33 (!) камерцыйныя структуры. І зроблена гэта, паводле слоў міністра прамысловасці Уладзіміра Куранкова, з парушэннем заканадаўства.

Страшныя лічбы назваў Юрый Захаранка: за 10 месяцаў у Беларусі зафіксавана каля 100 тысяч злачынстваў. А ўсяго 6 гадоў таму назад іх было 29 тысяч. І ўсё ж са зменай кіраўніцтва МУС злачынцам стала няўтульна. Аперацыі пад кодавай назвай "Аграрнік", "Вакзал", "Апоўзень" і іншыя даюць свой плён — злачынцы ўбачылі, што ім аб'яўлены сапраўдны бой. Пацвярджэннем таму адзін факт: за апошні месяц міліцыя захапіла 15 (!) бандыцкіх фарміраванняў, якія ўчынялі тэрор на дарогах. І што характэрна — ні адна (!) з банд не здалася, не аказаўшы ўзброенага супраціўлення. З абодвух бакоў былі і забітыя, і параненыя.

Падзякаваўшы міністру, прэзідэнт заявіў: "Трэба зрабіць усё, каб работнік міліцыі стаў персонай недатыкальнай. Ніхто не атрымае права не толькі страляць, але і зневажаць, знеслаўляць чалавека ў міліцэйскім шынялі". І далей прэзідэнт падтрымаў думку генеральнага пракурора аб тым, што дзеянні ўсіх праваахоўных органаў маюць патрэбу ў большай каардынацыі.

Расказаў прэзідэнт прысутным і аб сваіх перагаворах з Віктарам Чарнамырдзіным і Уладзімірам Шумейкам. Прэзідэнт пацвердзіў: Расія застаецца галоўным партнёрам нашай дзяржавы. "Наша залежнасць ад Расіі каласальная, — прызнаў прэзідэнт. — Ды і як можа быць інакш, калі з Расіі мы атрымліваем 86 працэнтаў сыравіны, а 85 працэнтаў нашай прадукцыі ідзе на расійскі рынак?" Аляксандр Лукашэнка чарговы раз сказаў, што ён застаецца прыхільнікам прагматычнага курсу, паважлівых адносін да ўсходняга суседа. І такая пазіцыя, паводле слоў кіраўніка дзяржавы, знаходзіць разуменне і ў Чарнамырдзіна, і ў Шумейкі, і ў іншых расійскіх лідэраў. Ён паведаміў таксама, што ўжо ў панядзелак у Маскву адправіцца група экспертаў на чале з Міхаілам Мясніковічам, а ў сераду намечаны перагаворы беларускай і расійскай дэлегацый на ўзроўні прэм'ер-міністраў.

У кароткім заключным слове прэзідэнт заявіў, што час уговораў скончыўся, і запатрабаваў жорсткай выканаўчай дысцыпліны, заявіўшы пры гэтым: "Я гатовы кансультавацца, раіцца, але калі рашэнне прынята, яго трэба выконваць".

У ходзе нарады прапаноўваліся розныя меры для стабілізацыі становішча ў Беларусі. У прыватнасці, Старшыня Вярхоўнага Савета Мечаслаў Грыб сказаў, што ён лічыць дзеянні Канстытуцыйнага суда незаконнымі і што ён напісаў спецыяльную адносіну ў адрас суддзяў аб змяненні свайго рашэння па прыпыненню дзеяння Закона аб мясцовым самакіраванні.

*БЕЛІНФАРМ.*

## Прафсаюзы "азадачваюць" Канстытуцыйны суд

Савет Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі звярнуўся ў Канстытуцыйны суд рэспублікі з просьбай ініцыіраваць у адпаведнасці з артыкулам 127 Канстытуцыі краіны пастаноўку пытання аб правамернасці ўказа прэзідэнта за №135 і пастановы Нацыянальнага банка за №17. Гэтымі дакументамі, як вядома, зацверджаны часовы парадак нармалізацыі разлікаў паміж суб'ектамі гаспадарання рэспублікі, згодна з якім для прадпрыемстваў, што маюць запазычанасць перад бюджэтам і за энерганосьбіты, фактычна ўводзіцца абмежаванне на выдачу заработнай платы ў межах 5-ці мінімальных зарплат у разліку на аднаго працуючага.

На думку ФПБ, такі парадак парушае замацаванае ў артыкуле 42 Канстытуцыі краіны права асоб, якія працуюць па найму, на ўзнагароджанне за выкананую работу. Гэтая канстытуцыйная норма не змяшчае ўмоў, што дазваляюць абмежаваць размеры заработнай платы якой-небудзь граніцай. Згодна з артыкулам 23 Асноўнага Закона рэспублікі, абмежаванне правоў і свабод асобы дапускаецца толькі ў выпадках, прадугледжаных законам у інтарэсах нацыянальнай бяспекі, грамадскага парадку, абароны маралі, здароўя насельніцтва, правоў і свабод іншых асоб. Уводзімы ж часовы парадак нармалізацыі разлікаў паміж суб'ектамі гаспадарання спасылак на такія абставіны не змяшчае.

Пярэчанне прафсаюзаў выклікае і прадугледжаная часовым парадкам градацыя абавязковых выплат у парадку іх чарговасці, што дазваляе адносіць разлікі па зарплаце да абавязацельстваў не першачарговага выканання. Гэта не адпавядае патрабаванням артыкула 110 Закона «Аб прадпрыемствах у Рэспубліцы Беларусь», дзе сказана, што разлікі па аплаце працы з членамі працоўнага калектыву ажыццяўляюцца ў першачарговым парадку. Прыярытэтнасць выплат, звязаных з узнагароджаннем за працу, замацавана і ў Канвенцыі МАП, якая прадугледжвае, у прыватнасці, што «заработная плата... падлягае выплаце поўнасцю да таго, як звычайныя крэдытары змогуць запатрабаваць сваю долю». Такім чынам, уведзены парадак супярэчыць і артыкулу 8 Канстытуцыі Беларусі, у адпаведнасці з якім рэспубліка «...прызнае прыярытэт агульнапрызнаных прынцыпаў міжнароднага права і забяспечвае адпаведнасць ім заканадаўства».

*БЕЛІНФАРМ.*

## СУМНА...

Кур"ёзаў у нашым няпростым цяпер жыцці дастаткова. Але калі адны з іх выклікаюць толькі ўсмешку, то другія могуць прывесці да дэпрэсіі.

Напрыклад, гаспадаркі Нясвіжскага раёна здалі гэтай восенню 60 тысяч тон цукровых буракоў на перапрацоўку і, як у былыя гады, чакалі, што атрымаюць за іх грошы. Спадзяваліся і на тое, што частка належнай сумы ім будзе вернута гатовай прадукцыяй, гэта значыць цукрам. Прынамсі, так было раней: і перапрацоўшчыкам выгадна, і вытворцам падмога.

Але ўсё цячэ, усё мяняецца. Цукар жа гаспадаркі раёна атрымалі. Але ў прыдачу да яго перапрацоўчы завод прад"явіў немалыя рахункі. Не атрымаўшы ні капейкі за здадзеную прадукцыю, гаспадаркі раёна яшчэ і ў даўгу засталіся — заводу трэба выплаціць 1 мільярд рублёў. Вось вам і парытэт цэн, і рыначная эканоміка...

*БЕЛІНФАРМ.*

## У ПАШАНЕ "ПАЎНОЧНЫ ШОЎК"

У пераводзе на льновалакно калгас імя Чапаева Барысаўскага раёна адправіў на заводы Крупак, Беразіно і Ушачаў 45 тон «паўночнага шоўку». Выручка ад яго рэалізацыі склала 50 мільёнаў рублёў. Па ўсім відаць, гаспадарка будзе мець і прыбытак ад вырошчвання льну, які займаў сёлета 80 гектараў: выдаткі не перавышаюць даходаў.

Пэўныя грошы атрыманы і ад продажу бульбы, якая дала на круг па 156 цэнтнераў (другі паказчык у раёне пасля саўгаса-аграфірмы «Стара-Барысаў»). Але ўсё ж найбольш папоўніў калгасную касу менавіта лён.

*Сцяпан БУКАЦІЧ.*

## СВИНИНА ПО-ФРАНЦУЗСКИ

Всерьез решили заняться производством свинины по французской технологии шесть фермерских хозяйств Клецкого района. Объединив финансовые средства, единоличники построили в деревне Мервины добротный комплекс на 300 голов свиней, смонтировали оборудование. Корма для хрюшек новые хозяева будут готовить сами в доле с местным колхозом «Путь к коммунизму» в его специализированном цехе. Сейчас идет заполнение комплекса высокопородными свиноматками, которых поставляет фермерам спецхоз «Белая Русь» Узденского района.

Владельцы нового комплекса планируют полностью удовлетворить нужды жителей близлежащих деревень в молодняке, а из откормочного отделения свинина в свежем виде вскоре поступит на прилавки мясных магазинов.

*БЕЛИНФОРМ.*

## ІЛЬГОТНЫЯ КІНАСЕАНСЫ

Многім з нас зарплаты ці пенсіі цяпер хапае толькі на тое, каб звесці канцы з канцамі. Пра кіно застаецца толькі марыць, бо за білет на адзін сеанс трэба выкласці сотні рублёў. Уважыўшы свае магчымасці, кіраўніцтва Уздзенскага філіяла вытворчага прадпрыемства «Кінавідэапракат» пайшло насустрач малазабяспечаным жыхарам гарадскога пасёлка — кожную нядзелю для іх у кінатэатры «Кастрычнік» дэманструюцца мастацкія і хранікальна-дакументальныя фільмы. Білет на такі льготны сеанс каштуе ўдвая менш.

*Міхаіл БУЛАТ.*

## Высокія цэны — атрыбут хворай эканомікі

Цэны, цэны... Іх імклівы рост выклікае шквал моцных эпітэтаў у адрас органаў улады, . Каму верыць? У час выбараў колькі было абяцанняў не дапусціць падзення жыццёвага ўзроўню! А як дабраліся да руля дзяржаўнай машыны, тут жа забылі аб усім. Ніякіх перамен да лепшага не відаць. Сёння пенсіянеры і малазабяспечаныя сем'і ўжо не могуць купіць нават бутэльку малака і бохан хлеба. Многія на заводзе даўно забылі дарогу ў сталовую, харчуюцца немаведама чым ля сваіх станкоў, нярэдка страчваюць прытомнасць ад голаду. Пабывайце на БелАЗе, — вам не тое яшчэ скажуць. Нас жа супакойваюць: пачакайце крыху, вось-вось палягчэе. Калі? І каму? Тым, хто нахапаў грошай і зараз будуе шыкоўныя катэджы ля Жодзіна, Смалявічаў, Барысава і ў шэрагу іншых прыгарадных мясцін? Начальства і так ужо ўзяло сабе ўсё што магло. Да простага ж чалавека нікому няма справы. Аб ім ніхто не думае. Толькі і ведаюць, што ўвесь час павышаюць цэны, заганяючы ўсё больш людзей за рысу беднасці і жабрацтва.

Вось гэты агрэсіўна-крытычны настрой і аб'ядноўваў прысутных у зале. Кіраўнікі гарсавета не думалі, што сустрэча з дырэктарам Дэпартамента цэн рэспублікі А.П.Грэцкім і загадчыкам аддзела цэн аблвыканкома М.Я.Ігнацьевым выкліча такую цікавасць у жодзінцаў. Меркавалася запрасіць на яе толькі кіраўнікоў мясцовых прадпрыемстваў і старшынь прафсаюзных камітэтаў. Аднак паколькі тэма гаворкі надзвычай актуальная, закранае інтарэсы кожнага, то ў Дом культуры аўтазавода прыйшло намнога больш людзей, чым думалі. Давялося пераходзіць у вялікую залу...

Кіпяць людзі. Усе разумеюць, што цэны павінны расці. Але ці такімі тэмпамі? Няхай тысячы, мільёны каштуюць тавары раскошы. Але цэны на самае неабходнае навошта ж заганяць на касмічную вышыню? Прычым, цішком. Загадзя не праінфармавалі людзей, не растлумачылі што да чаго, як думае Кабінет Міністраў абараняць інтарэсы малазабяспечаных слаёў насельніцтва.

— Мне цяжка сказаць, чаму прамаўчалі міністры. Я ж напярэдадні выступаў па радыё, — зазначыў А.П.Грэцкі. — Толькі хочам мы гэтага ці не, аднак рост цэн непазбежны. У 1992 годзе адпусцілі іх амаль на ўсе тавары, зрабілі свабоднымі. На хлеб, малако, мяса, лекі стрымлівалі цэны велізарнымі датацыямі. Урад не адважыўся пусціць іх у свабоднае плаванне, не хацеў рызыкаваць: напярэдадзе выбары, і няцяжка было прадбачыць рэакцыю людзей. Калі б гэта зрабілі тады, то сёння не было б рэзкага скачка ўверх. Пасля 20 кастрычніка вычарпалі ўсе магчымасці працаваць па фіксаваных цэнах. Не было адкуль браць грошы, перасохлі крыніцы іх паступлення для выплаты датацый хлебазаводам і малочным камбінатам.

— Тады скажыце, чаму ў Мінску прадукты таннейшыя, чым на перыферыі? Не тлумачце гэта толькі транспартнымі расходамі.

— Кожнае прадпрыемства вызначае кошт прадукцыі зыходзячы са сваіх выдаткаў вытворчасці. Вось прыклад. Нядаўна правяралі два мінскія камбінаты. І цана гатовых вырабаў у аднаго на 30 працэнтаў ніжэйшая: мае сваю кацельню. Як толькі даражэюць энерганосьбіты, адразу ж расце кошт усіх без выключэння тавараў, паслуг насельніцтву, праезду на грамадскім транспарце і г.д. Ідзе ланцуговая рэакцыя.

Высокая цана — непазбежны атрыбут нашай хворай эканомікі. Падаюць аб'ёмы выпуску прадукцыі. Галапіруе інфляцыя. Яшчэ зусім нядаўна курс беларускага рубля вагаўся ў межах трох тысяч за долар, а сёння пераваліў за сем тысяч. Вось і вырашайце, хто выгадаў: той, хто купіў, скажам, зерне раней ці цяпер, заплаціўшы за тону 105—120 долараў?

Прымусілі задумацца жодзінцаў (і нас таксама) і такія лічбы.

У параўнанні з 1990 годам цана бензіну ўзрасла ў 78 тысяч разоў, паліва — у 85 тысяч. А збожжавых — у 9 тысяч, цукровых буракоў — 15 тысяч, мяса — 5.240. Каб набыць тону бензіну, раней дастаткова было прадаць 3.229 кілаграмаў зерня. Сёння ж і пяці тон малавата.

Аб неэквівалентным абмене паміж горадам і вёскай сказана нямала. Усе прызнаюць, што гэта несправядліва — дазваляць прамысловасці самастойна вызначаць кошт прадукцыі, а сельскагаспадарчую прадаваць па фіксаваных цэнах. Рэальных жа крокаў па ліквідацыі такога парадокса не робіцца. Як і па ўдасканаленню падатковай сістэмы. Прадукты абкладаюцца адным і тым жа падаткам на ўсіх этапах вытворчасці — ад зыходнай сыравіны, яе перапрацоўкі да рэалізацыі гатовых вырабаў. І кожны — гаспадарка, завод, гандаль — уключае гэты падатак у цану. Таму зусім слушным было пытанне: чаму б не адмяніць гэты падатак?

— Спытайце ў сваіх дэпутатаў, якіх вы выбралі, — адказаў М.Я.Ігнацьеў. — Нават на цяперашняй сесіі не ўключылі ў парадак дня Закон аб цэнах. Палічылі другарадным. А без прававой базы цяжка займацца рэгуляваннем працэсу цэнаўтварэння. Адзіная для нас магчымасць — уздзейнічаць на цэны, якія ўстанаўліваюць прадпрыемствы-манапалісты па выпуску той ці іншай прадукцыі, у тым ліку хлеба, малака і мяса. Ды яшчэ вытворцам даводзім узровень рэнтабельнасці, які ніхто не можа пераўзысці. Інакш дадаткова атрыманы даход забіраецца ў бюджэт разам са штрафам у такім жа размеры.

Згодны з вамі: многія прадпрыемствы неабгрунтавана павышаюць сваю цану. За тры кварталы мы праверылі 1.200 прадпрыемстваў, і высветлілася, што на 40 працэнтаў з іх завышалі расходы на цяпло і энергію, уключаючы ў кошт гатовага вырабу. Было спагнана 330 мільёнаў рублёў, а 57 кіраўнікоў са сваёй кішэні заплацілі 537 тысяч рублёў штрафу (у новым вылічэнні).

Развеяўся і міф аб тым, што на тавары вызначаюцца высокія гандлёвыя надбаўкі з мэтай атрымання вялікай зарплаты. На хлеб, малако, мяса надбаўка складае 10 працэнтаў, а ў цэлым сярэдняя — 17,26 працэнта. Сярэднямесячны заробак работнікаў жодзінскіх магазінаў за тры кварталы склаў 45 тысяч рублёў.

Раней дзяржаўныя органы дыктавалі сваю волю прадпрыемствам, рэгламентавалі кожны іх крок. Цяпер вытворцы атрымалі поўную свабоду ў вызначэнні асартыменту, яго кошту. Праўда, найбольш доўга трымаліся фіксаваныя цэны на прадукты, дзіцячыя тавары. Зараз адменены. З 11 жніўня, калі адпусцілі цэны на хлеб і малако, яны павышаліся ў 13-18 разоў. І вось чарговы рост, які выклікаў рашучы пратэст насельніцтва. Прэзідэнт даў указанне прывесці іх да ранейшага ўзроўню..

Гэта не азначае, што яны будуць замарожаны на доўгі перыяд. Калі мы хочам увайсці ў рынак, то ў нас павінны дзейнічаць і рыначныя законы. Такое патрабаванне Міжнароднага валютнага фонду. Інакш ніякай дапамогі ад яго не атрымаем.

Трэба таксама мець на ўвазе, што рост цэн не можа быць бясконцы. З-за нізкай плацежаздольнасці людзей прадпрыемствы не змогуць рэалізаваць сваю прадукцыю. Скажам, тыя ж жодзінцы завозілі хлеб з Мінска, а цяпер з Барысава, паколькі ён таннейшы, чым у мясцовага хлебазавода. Так што давайце падумаем, ці не больш выгадна для нас паступова зніжаць кошт сваіх тавараў.

*Пётр СІДАРОВІЧ.*

■ АПК і рынак

# БАРСАМЯН — ЧАЛАВЕК ЭНЕРГІЧНЫ

**“Касмічныя” цэны на тэхніку, абсталяванне “адпудзілі” многіх кліентаў райаграпрамзабеспячэння. І ўсё ж адміністрацыя на чале з Т.С.Барсамянам робіць усё магчымае, каб дапамагчы калгасам раёна (і не толькі ім) у забеспячэнні матэрыяльна-тэхнічным рэсурсамі. У пік сельгасработ (сяўба, уборка ўраджаю, нарыхтоўка фуражу) на базе можна набыць розныя запчасткі для трактароў, сельгасмашын, а таксама гаруча-змазачныя матэрыялы... Дзейнічае абменны пункт, дзе ўзамен старых, зношаных агрэгатаў можна атрымаць адрамантаваныя.**

Т.С.Барсамян расказаў, што сёння не так важна “загрузіць” базу тэхнікай, як рэалізаваць яе спажыўцам. А гэта няпроста. Скажам, сёлета прадалі толькі восем трактароў Т-150, некалькі касілак, плугоў, іншых сельгасмашын. Часцей за ўсё з гаспадарак едуць, каб купіць асобныя вузлы, падшыпнікі, сальнікі, валы... Бо заводы-манапалісты будуць звязвацца з тым, хто бярэ не аптовую партыю тавару, а нейкую “дробязь”. Дык вось, база чуйна рэагуе на “грымасы рынку”. Аўтамашыны з Гарадзеі “шнуруюць” у многія краіны СНД, Расію, Украіну, Кіргізію... Скажам, акумулятары былі дастаўлены з Санкт-Пецярбурга. Запчасткі да сянажнай тэхнікі — нават з Германіі.



Міжволі здзіўляешся, як кіраўніцтва райаграпрамзабеспячэння знаходзіць аптымальны выхад з самага, здавалася б, тупіковага становішча. Тут “пранюхалі”, што на базе ў чэшскім горадзе Брно ёсць запчасткі для трактароў ДТ-75 (відаць, у свой час з былога СССР сюды было завезена іх больш чым патрэбна). З Чэхіі ў Гарадзею былі дастаўлены дэфіцытныя для нас карэткі, гусеніцы, цыліндры... Вядома, не задарма: узамен трэба было даць тыя тавары, якія цікавяць чэхаў. Па такому ж прынцыпу былі набыты ў Балгарыі катушкі запальвання для аўтамашын розных марак.

Без камерцыі тут не абысціся. За кошт яе па сутнасці і жыве калектыў. Барсамян — чалавек энергічны, трымае руку на пульсе часу, нярэдка ідзе на рызыку. Але ўсе службы базы працуюць рытмічна. Аўтатрактарны парк дае нядрэнную выручку (асабліва плённа яго калектыў працаваў на ўборцы цукровых буракоў). Акупляюць сябе будаўнічы участак, швейная майстэрня, дзе шыюць пасцельныя рэчы, жаночыя халаты, дзіцячае адзенне.

Што плануе адміністрацыя на будучае? Вядома ж, быць надзейным партнёрам земляроба, выручаць яго чым можна. Заадно тут мяркуюць узяць у арэнду 50-гектарны ўчастак зямлі, пабудаваць сваю свінаферму. Гэта дасць карысць, бо можна будзе забяспечыць людзей работай, ды і прадукцыя ў сваім магазіне будзе таннейшая.

Выношваюцца і такія планы: наладзіць на базе сервіс па абслугоўванню аўтамашын замежных марак (побач з Гарадзеяй, як вядома, ідзе аўтамагістраль Брэст — Масква). Дык чаму б за валюту не “падлячыць” нейкаму бізнесмену ці турысту яго машыну?

Устаноўлены кантакты з адной германскай фірмай, якая будзе пастаўляць на базу ў Гарадзею зручныя высокапрадукцыйныя касілкі, прэс-падборшчыкі, здрабняльнікі грубых кармоў. Гэтыя агрэгаты гаспадаркі могуць браць у арэнду па “боскай” цане. Вядома ж, на аснове ўзаемнай выгады.

*Канстанцін ПРЫЁМКА.*

*НА ЗДЫМКАХ: дырэктар базы **Т.С.Барсамян** і галоўны эканаміст **Н.С.Кухарчык** аналізуюць вынікі гаспадарчай дзейнасці; інжынер-камплектоўшчык Сяргей **Куневіч**.*

*Фота Анатоля ФРАНЧУКА.*
*Нясвіжскі раён.*

■ Статыстыка сведчыць

## БЕЛАРУСЬ — РЭСПУБЛІКА ЖАБРАКОЎ

Паводле звестак Дзяржкамстата рэспублікі, самая высокая сярэднямесячная заработная плата ў верасні бягучага года была ў работнікаў будаўнічых арганізацый — 152.368 рублёў, прычым па гэтаму паказчыку будаўнікі прыкметна абагналі ўсе астатнія катэгорыі працоўных. Так, прадстаўнікі прамысловасці рэспублікі, якія ідуць на другім месцы, атрымлівалі 125.834 рублі, а работнікі транспартнай сферы, якія замыкаюць тройку лідэраў, — 124.619.

Самай нізкай аказалася заработная плата работнікаў сацыяльнага забеспячэння — 61.809 рублёў. Не намнога абагналі іх калгаснікі — 64.797 рублёў. Як заўсёды ў аўтсайдэрах апынуліся работнікі мастацтва, культуры, аховы здароўя.

Дарэчы, больш як пяць мільёнаў чалавек маюць даходы ніжэй за пражытачны мінімум. Гэта значыць, што больш як палова ўсіх жыхароў рэспублікі жыве за рысай беднасці.

## ДЗЕ ВЫ, БАВОЎНА, ЦУКАР, АЛЕЙ?..

За першыя дзевяць месяцаў гэтага года практычна па ўсіх паказчыках скараціўся імпарт у рэспубліку. Найбольш рэзка зменшылася колькасць увезенай бавоўны — усяго 5.900 тон, што склала толькі 24,6 працэнта да адпаведнага перыяду мінулага года. Невысокія паказчыкі і па алею — 13.300 тон, або 26,9 працэнта да мінулагодніх аб"ёмаў. Да 50 тысяч тон скараціліся аб"ёмы ўвезенага цукру. І калі вытворчасць уласнага алею павялічылася, што хоць неяк кампенсавала недахват імпарту, то аб цукры гэтага сказаць нельга. Узровень яго вытворчасці ў рэспубліцы склаў толькі 85 працэнтаў ад аналагічных паказчыкаў мінулага года.

Толькі электраэнергіі мы сталі спажываць больш. Яе імпартавана ў рэспубліку 3.044,6 мільёна кілават, што склала 116,9 працэнта да мінулагодніх аб"ёмаў.

## ЖЫЛЛЁ — МАЁ

З моманту ўвядзення ў дзеянне Закона "Аб прыватызацыі жыллёвага фонду" ў рэспубліцы прыватызавана 356,2 тысячы кватэр, што складае 24,5 працэнта усяго дзяржаўнага і грамадскага жыллёвага фонду. Ацэначны кошт кватэр, якія перайшлі кватэранаймальнікам ва ўласнасць, склаў 1.054,1 мільёна рублёў. З яго грамадзянамі заплачана 526,2 мільёна рублёў, а жыллёвай квотай пагашаны кошт кватэр у суме 262,6 мільёна.

Больш за ўсё прыватызаванай жылой плошчы ў Мінску — 81,2 тысячы кватэр, менш за ўсё ў Гродзенскай вобласці — 33,6 тысячы. Аднак у працэнтах да ўсяго жыллёвага фонду па колькасці прыватызаванага жылля лідзіруе менавіта Гродзеншчына — 30,2 працэнта, а найменшыя паказчыкі ў Брэсцкай вобласці — 20,6 працэнта.

## ДА САЦСФЕРЫ РУКІ ЯШЧЭ НЕ ДАЙШЛІ

Жылыя дамы агульнай плошчай 1.540 тысяч квадратных метраў здадзены ў рэспубліцы на працягу дзевяці месяцаў бягучага года. За гэты ж перыяд паявілася 13.637 новых вучнёўскіх месц у сярэдніх школах і 1.835 месц у дашкольных установах. Як сведчыць статыстыка, гэтыя паказчыкі, мякка кажучы, невысокія. Прынамсі, жылля здадзена на 28 працэнтаў менш, чым у адпаведным перыядзе мінулага года, вучнёўскіх месц — на 22 працэнты, месц у дашкольных установах — на 64 працэнты.

На працягу студзеня-верасня гэтага года з аб"ектаў сацыяльнай сферы ўведзены ў дзеянне бальніцы на 122 ложкі, амбулаторна-клінічныя ўстановы, здольныя прыняць 2.290 чалавек у змену, а таксама адно прафесійна-тэхнічнае вучылішча ў Мінску. А вось новыя клубы і дамы культуры здольныя ўмясціць толькі 500 чалавек.

## ШТО НАША ЖЫЦЦЁ?

За восем месяцаў гэтага года ў рэспубліцы па ўласнай волі скончылі самагубствам 2.231 чалавек. У параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года колькасць суіцыдаў узрасла амаль на 8 працэнтаў. Найбольшая колькасць самазабойстваў зафіксавана ў Мінскай і Віцебскай абласцях. Гэтыя ж вобласці лідзіруюць і па колькасці забойстваў. Дарэчы, па ўласнай волі звесці рахункі з жыццём “жадаючых” намнога больш, чым тых, хто пакінуў гэты свет па волі злачынцаў. Так, за аналагічны перыяд бягучага года ў рэспубліцы забіта 699 чалавек.

*БЕЛІНФАРМ.*

■ Гандаль

# Спачатку думай пра пакупніка.

## І толькі потым — пра сваю кішэню?..

**Аблюбаваныя і апрабаваныя гандлярамі — уладальнікамі камерцыйных крам (і не толькі) аблегчаныя метады работы і нажывы ой як балюча б'юць па нервах гандляроў дзяржаўных. Яшчэ б! Каму спадабаецца, калі ў яго пад носам сусед атрымлівае прыбыткі, без малога шалёныя, і не за кошт нястомнай працы “ад...” і “да...”. Усё куды прасцей: перахапіў — купіў — перапрадаў...**

— Прычым займаюцца таварам толькі выгадным, — падкрэсліў у пачатку нашай гутаркі мой суразмоўца — **начальнік упраўлення гандлю аблвыканкома В.Ф.Гукайла.** — І бяда ў тым, што некаторыя дзяржаўныя прадпрыемствы гандлю спяшаюцца ўвесці аналагічныя спосабы работы і ў сваю практыку. Ад чаго, вядома, у першую чаргу церпіць пакупнік.

Прааналізаваўшы сітуацыю, аблвыканком прыняў рашэнне, якое прадугледжвае шэраг мер з адной мэтай: узняць на належны ўзровень дысцыпліну і адказнасць работнікаў гандлю. Для кантролю за выкананнем створана аператыўная група. Асаблівая ўвага сканцэнтравана на вытворчасці тавараў народнага спажывання. Мы распрацавалі і накіравалі на прадпрыемствы пералік тавараў, якіх у вобласці, як гаворыцца, не адшукаеш і з агнём.

***— Што датычыць вытворчых прадпрыемстваў, то часцяком здараецца так, што гандаль у нейкай ступені тармозіць іх дзейнасць. Я маю на ўвазе нясвоечасовыя разлікі за закупленую ў іх прадукцыю.***

— На жаль, часам бывае і такое. Вось таму, параіўшыся з нашымі працоўнымі калектывамі, мы вырашылі сорак працэнтаў прыбытку, які застаецца ў іх распараджэнні, выкарыстоўваць для папаўнення ўласных абаротных сродкаў. Іншымі словамі, для закупу тавараў у вытворчых прадпрыемстваў. Да ведама: летась на гэтыя мэты мы затрачвалі ўсяго 30 працэнтаў прыбытку, а яшчэ раней і ўвогуле на тыя грошы ніхто не спакушаўся.

Таму апошняе рашэнне нараджалася сапраўды балюча: названыя сумы ўпаўне маглі б быць выкарыстаны на павелічэнне зарплаты, арганізацыю бясплатнага харчавання для сваіх работнікаў, набыццё пуцёвак і г.д.

***— Дарэчы, калі ўжо зайшла размова аб прыбытках... Віктар Фёдаравіч, многія так званыя тавары першай неабходнасці не прыносяць магазінам вялізных “барышоў”. Ці не здарыцца калі-небудзь. так, што паліцы будуць трашчаць, скажам, ад дарагіх заморскіх шакаладак, а таннага хлеба на іх зусім не ўбачыш?***

— Вось аб гэтым можна не хвалявацца. У першую чаргу дзякуючы асартыментным пералікам, якія некалі былі, што называецца, святая святых для кожнага магазіна. Хоць гэта і складана пры цяперашніх умовах, але мы прынялі рашэнне вярнуцца да забытай практыкі, якая на першае месца ставіць інтарэсы пакупніка, а ўжо потым — гандлёвага прадпрыемства. Асартыментныя пералікі дакладна ўказваюць на тавары, якія павінны быць у продажы ад адкрыцця да закрыцця. Больш таго, сёння, выдаючы ліцэнзію на права адкрыцця гандлёвай кропкі, мясцовыя ўлады абавязаны адразу ж зацвердзіць для яе гаспадароў неабходны таварны асартымент.

***— Карацей кажучы, без хлеба з малаком мы не застанёмся. А якія прагнозы наконт забеспячэння садавінай і агароднінай?***

— Ну, хто хацеў, той вітаміны сабе ўжо прыдбаў. Вы звярнулі ўвагу, наколькі моднымі сталі ў нас кірмашы ў гарадах і раёнах? І які актыўны ўдзел прымаюць у іх гаспадаркі, нягледзячы на ўсе цяжкасці з гаручым, з транспартам. Вядома, невыпадкова. У выніку выйгралі ўсе: калгасы не трымалі прадукцыю і не згнаілі яе. Гандлю не трэба браць дарагія крэдыты для закупкі і захоўвання тавараў. А пакупнік атрымаў свежыя, дабраякасныя сельгаспрадукты, якія ён сам у стане перабраць і захоўваць колькі патрэбна. Шмат агародніны, вырашчанай гаспадаркамі вобласці, закладзена і ў дзяржаўныя “засекі”.

***— Віктар Фёдаравіч, ці зможам мы наведваць магазіны ў зручны для нас, пакупнікоў, час? Некаторыя з іх узялі за моду зачыняцца якраз тады, калі большасць працуючых, напрыклад, у дзяржаўнай сферы, толькі выходзяць за дзверы сваіх арганізацый і ўстаноў.***

— Згодна з апошнім рашэннем аблвыканкома, мясцовыя ўлады маюць права вызначаць рэжым работы прадпрыемстваў гандлю і грамадскага харчавання на сваёй тэрыторыі. Яны і павінны прывесці гэты распарадак у адпаведнасць з інтарэсамі пакупнікоў, вызначыць, калі патрэбна, дзяжурныя магазіны, якія будуць працаваць, скажам, да 22-х гадзін.

***— Хацелася б абмеркаваць пытанні, якія датычаць вонкавага выгляду будынкаў магазінаў, іх інтэр'ераў. Але, відаць, пры сённяшняй беднасці гаварыць аб гэтым было б проста смешна...***

— Катэгарычна не згодзен з вамі. Кожнае прадпрыемства, кожны калектыў павінны, што называецца, трымаць марку. Я звычайна гавару загмагам так: няхай у вас будзе не пяць, а пяць з паловай мільёнаў урону, але не забывайцеся пра эстэтыку. Рамантуйце, афармляйце, фарбуйце... Бо, як вядома, сквапны плаціць двойчы. Трэба ўкладваць сродкі ў будынак, а не чакаць, пакуль ён зусім разваліцца, бо тады іх спатрэбіцца ўдвая больш! І ніякіх тлумачэнняў на гэты конт упраўленне гандлю не прымала і прымаць не будзе.

***— Віктар Фёдаравіч, цяперашняя рэчаіснасць “нарадзіла” шмат новых гандлёвых кропак — камерцыйных, прыватных і г.д.***

— Так. Літаральна за два апошнія гады ў гарадах і раёнах вобласці з'явіліся 1.200 гандлёвых прадпрыемстваў розных форм уласнасці.

***— І, пэўна, туды прыйшлі новыя людзі, многія з якіх ніколі не працавалі ў гандлі. Як яны абыходзяцца без прафесійных ведаў? Хто іх павінен вучыць і сачыць за тым, каб нас, пакупнікоў, не атручвалі, не абважвалі...***

— Што датычыць прыватных магазінаў і магазінчыкаў, дык упраўленне гандлю не надзелена правам праводзіць там дакументальныя рэвізіі. А вось пытанні арганізацыі гандлю, утрымання памяшканняў, асартыменту тавараў выканком усклаў непасрэдна на нас. І, скажу вам шчыра, узняць культуру гандлю на прыстойны ўзровень у новых магазінах бывае проста немагчыма з-за прафесійнай неадукаванасці іх гаспадароў.

Аб чым можна гаварыць, калі чалавек, заняты ў гандлі, не ведае нават тэрмінаў захоўвання тавараў? А прыняць тавар па якасці — справа няпростая. Трэба ведаць, дарэчы, не толькі тэрміны захоўвання, але і таварнае суседства, тэмпературны рэжым... Ды дзе там! Прыватныя гандляры лічацца з гэтымі правіламі далёка не заўсёды. І не таму, што яны дрэнныя людзі, — проста адпаведных ведаў у іх няма. Мы можам замучыць іх праверкамі і, што называецца, душу вытрасці. Але што гэта дасць, калі можна так сказаць, у маштабе?..

Выйсце, на мой погляд, у іншым. Мясцовым выканкомам трэба неадкладна заняцца арганізацыяй сістэмы прафесійнага абучэння работнікаў гандлю ўсіх форм уласнасці. А дапамагчы ў гэтым могуць спецыялісты Інстытута перападрыхтоўкі і павышэння кваліфікацыі кадраў, які працуе пад эгідай Міністэрства гандлю. Яго супрацоўнікі, як правіла, багатыя на прафесійныя веды і, галоўнае, не адмовяцца, калі трэба, выехаць на месца.

У рэшце рэшт, цяпер існуе даволі моцны спосаб уздзеяння на прыватных гандляроў. Тыя з іх, хто не жадае лічыцца з правіламі гандлю і яўна не мае намеру ўпісвацца ў існуючыя рамкі дысцыпліны, могуць быць пазбаўлены гандлёвых ліцэнзій. Ва ўсякім разе, мясцовыя ўлады надзелены адпаведнымі правамі. Толькі паводзяць яны сябе ў гэтым сэнсе вельмі ўжо сціпла. А шкада...

*Гутарыла Інеса ПЕТРУСЕВІЧ*

# ЦЬМЯНЫЯ ПЕРСПЕКТЫВЫ

## З ВЫПУСКАМ ТОРФАБРЫКЕТУ Ў АБ"ЯДНАННЯ «СЯРГЕЕВІЦКАЕ»

**Павеяла зімовымі халадамі, і праблема забеспячэння палівам усё больш хвалюе людзей. У Пухавіцкім раёне існуе вытворчае торфабрыкетнае аб"яднанне “Сяргеевіцкае”. Здавалася б, пухаўчанам непакоіцца няма падстаў: ужо для сваіх дык паліва знойдзецца.**

Аднак пры размове з начальнікам планавага аддзела Я.І.Бурым высветлілася, што настрой у торфабрыкетчыкаў далёка не аптымістычны. Іх прадукцыя рэалізуецца па заніжаных цэнах. Таму няма ніякіх магчымасцей кампенсаваць, хаця б у разумных межах, свае выдаткі.

А тут яшчэ праблема з сыравінай. Амаль дзесяць гадоў затрацілі на тое, каб дабіцца выдзялення зямель пад торфаздабычу. І зараз патрэбны мільярды рублёў, каб падрыхтаваць новыя ўчасткі для здабычы торфу. Грошай у наяўнасці няма, таму даводзіцца выкарыстоўваць старыя плошчы. На іх практычна ўжо немагчыма атрымліваць высакаякасную прадукцыю. Гэта адбіваецца і на аб"ёмах. Так, напрыклад, у верасні далі 8,5 тысячы тон торфабрыкету, а ў кастрычніку — толькі каля 5 тысяч.

А патрэбнасць у ім застаецца высокая. Людзі едуць і едуць у «Сяргеевіцкае». Бяруць не толькі «нарматыўныя» дзве з паловай тоны па 20 тысяч рублёў за кожную. Гатовы плаціць па 55 тысяч рублёў — быў бы торфабрыкет у наяўнасці.

116 тысяч тон торфу здабылі сёлета ў «Сяргеевіцкім». Ці хопіць, каб дацягнуць да новага сезона? Ніхто не ведае. Торфабрыкетчыкі спынілі работу ў красавіку і «адпачывалі» да ліпеня. На які тэрмін зацягнуцца «канікулы» ў новым годзе, цяжка сказаць.

Затое незапатрабаваным застаецца 170 тысяч тон сельскагаспадарчага торфу. Не па кішэні ён аграрнікам. Менавіта таму сёлета яго ўжо і не здабывалі.

Перспектывы выпуску торфабрыкету вельмі туманныя. Таму жывуць у «Сяргеевіцкім» толькі сённяшнім днём.

*Аліна ГРЫШКЕВІЧ.*

■ Салігорскія навіны

## І ВЯСЕЛЛІ, І РАДЗІНЫ

На дзіва верныя роднай зямлі жыхары вёскі Хорастава Салігорскага раёна. Нават у гэты складаны час большасць з іх не кідаюцца шукаць шчасця ў далёкіх краях, а працуюць у полі, на фермах. І жывуць нядрэнна.

Доказ таму — статыстыка. Хорастаўцы з пачатку года ўжо згулялі 25 вяселляў. У вёсцы нарадзіліся 23 дзіцяці. Для многіх населеных пунктаў кожная такая ўрачыстасць — вялікая падзея.

Гэткай зайздроснай аседласці садзейнічаюць многія фактары. І ў першую чаргу — увага, клопат з боку мясцовых улад. Калгас «Партызанскі край» заўсёды дапаможа маладым пабудаваць дом, набыць для гаспадаркі самае неабходнае. На яго сродкі ўзводзіцца царква. Далёка за межамі вёскі славіцца і хорастаўскі фальклорны ансамбль. Так што і для духоўнага развіцця тут стараюцца стварыць шырокія магчымасці.

## КІНАЭКСПЕРЫМЕНТ

Дзённыя сеансы ў кінатэатры «Салігорск» наведваюць 4—5 гледачоў. У той жа час вакол яго бадзяецца нямала дзяцей, якія не супраць паглядзець фільм, але не маюць грошай.

Адміністрацыя кінатэатра вырашыла ў парадку эксперымента на дзённыя сеансы, асабліва калі дэманструюцца прыгодніцкія, фантастычныя фільмы, хлопчыкам і дзяўчынкам, якім яшчэ не споўнілася 14 гадоў, прадаваць білеты ўсяго па сто рублёў. Для параўнання: білет для дарослага ў шэсць разоў даражэйшы. Калі на афішы з"яўляецца паметка «спецыялізаваны фільм», бацькі могуць даваць дзіцяці суму, на якую можна набыць хіба што чацвярцінку хлеба, і выпраўляць яго ў кінатэатр.

Эксперымент працягваецца. Выгада відавочная: кінатэатр без лішніх затрат павялічыў выручку, дзеці знайшлі разумнае прымяненне вольнаму часу, а грамадства, магчыма, пазбавілася ад дадатковых правапарушэнняў.

Калі эксперымент удасца, кіраўніцтва кінатэатра мяркуе падобную сістэму ўкараніць і для дарослых наведвальнікаў. Куды дзенешся, гледачоў трэба зацікаўліваць. Інакш не выжыць ва ўмовах рынку.

## ПІХАЮЦЬ ДА ВАЛЮТЧЫКА

У Салігорскі аддзел унутраных спраў жанчына прынесла падазроную пяцідзесяцідоларавую купюру. Праверылі. Аказалася, што чыясьці спрытная рука падмалявала на ёй нуль. І банкнота стала адразу ў дзесяць разоў «цяжэйшая». Па апісанню жанчыны знайшлі таго, хто абмяняў фальшыўку. Але «крыміналу» за ім ніякага не ўстаноўлена. Сёння фальшывыя банкноты лёгка могуць трапіць у рукі кожнага з нас. Калі праводзіць валютныя аперацыі на вуліцы.

Чаму ж салігорцы не заўсёды карыстаюцца паслугамі афіцыйных абменных пунктаў? Таму, што мяняюць грошы ў горадзе толькі тры банкі. Валютныя аперацыі, як правіла, праводзяцца да абеду. Ды і то не заўсёды. А калі адстаіш чаргу, дык можаш пачуць: няма дробных купюр. Многа размоў аб пунктах абмену валюты ў магазіне «Юбілейны», ва універмагу, але пакуль што дзверы іх зачынены.

Вось так непаваротлівыя дзяржаўныя чыноўнікі і піхаюць людзей да валютчыкаў, вымушаюць рызыкаваць іх сваімі грашыма.

*Уладзімір БЫЧЭНЯ.*

Шыварат-навыварат

# ЯКІЯ ЧАСЫ — ТАКІЯ І НОРАВЫ

**Жыццё багатае на розныя сюжэты. На жаль, яны не заўсёды стасуюцца з Крымінальным кодэксам. І тады іх героі аказваюцца ў незайздросным становішчы.**

## УРОК НА КАРЫСЦЬ

Пасажыр з суседняй Літвы А.Рагіс у той дзень знаходзіўся на станцыі Мінск-Пасажырскі, чакаў свайго цягніка. Настрой у яго пасля прыёму адпаведнай дозы спіртнога быў прыўзняты. З-за гэтага пільнасць і прытупілася. А непадалёку швэндаўся беспрацоўны мінчанін, раней судзімы В.Гардзей.

На «прынаду» Гардзея і «клюнуў» нецвярозы Рагіс. Адышоўшы крыху ад вакзала, мінчанін нанёс некалькі моцных удараў і «адключыў» літоўца. Потым «пачысціў» яго кішэні. Аднак увесь гэты час «гастралёра», як кажуць, «пасвіў» работнік міліцыі, якому здаліся падазронымі паводзіны Гардзея. Апошні і быў затрыманы. У выніку тры з паловай гады пазбаўлення волі, тэрмін, які, спадзяюся, дазволіць яму перагледзець свае адносіны да такога «знаёмства» з людзьмі.

Што тычыцца А.Рагіса, то дай Бог, каб гэты ўрок пайшоў на карысць. І не толькі яму.

## ДАГУЛЯЛІСЯ Ў "ХОВАНКІ"

Прыкра сёння жыхарцы вёскі Навасады Барысаўскага раёна, загадчыцы магазіна № 35 Ш., у якой супрацоўнікамі праваахоўных органаў выяўлены факт прыхоўвання тавараў ад пакупнікоў на 480 тысяч рублёў. Кошкі на сэрцы скрабуць і ў прадаўца кафетэрыя ад сталовай № 6 станцыі Барысаў Б., схаваўшай ад рэалізацыі тавараў на суму 343 тысячы рублёў.

Цяпер сваю ацэнку гэтаму дасць народны суд. Трэба, мяркую, задумацца і іншым гандлярам.

## ЛЮБОЎ "ПАД ГРАДУСАМ"

Нідзе не працуючая мінчанка С. позна вечарам звярнулася ў дзяжурную часць міліцыі з заявай на мясцовага жыхара Д., які, паводле сцвярджэння заяўніцы, хацеў яе згвалтаваць у службовым памяшканні. Вядома, кепская, вельмі кепская гэта справа дамагацца жаночай ласкі шляхам фізічнай сілы. Але хто можа даць сёння гарантыю, што заява С. сапраўды напісана ў сувязі з aганьбаваннем жаночай годнасці, калі інцыдэнту папярэднічала сумеснае ўжыванне спіртнога пры поўным узаемаразуменні.

Таму памятайце: меркаваць пра гонар і годнасць «пад градусам» — справа сумніцельная.

*Уладзімір МАЦЭЛЬ,*
*намеснік начальніка аддзела Пракуратуры Рэспублікі Беларусь,*
*старшы саветнік юстыцыі.*

-50-

# "Я СЫДУ СПАКОЙНЫ, КАЛІ БУДУ ВЕДАЦЬ, ШТО ВАМ ДОБРА..."

Гэта была сям"я беларускіх татараў. Адамовічы змалку цягнуліся да адукацыі, перад вайной мелі неблагія спецыяльнасці. Бацька, Адамовіч Аляксандр Абрагамавіч, працаваў старшым бухгалтарам, маці, Марыя Іванаўна, — таваразнаўцай, сын Ібрагім у 1941 годзе скончыў Мінскі політэхнічны інстытут і меўся быць інжынерам-гідратэхнікам, дачка Алена перайшла на другі курс гэтага ж інстытута...

І ўсё паламала вайна. Вуліцу Чычэрына, дзе ў доме № 31 жыла сям"я, накрыла першая ж бамбёжка фашысцкіх самалётаў. Як і шмат хто іншы, вырашылі пакінуць Мінск, выбрацца з гэтага пекла. Падаліся ў напрамку Лагойска. Але немцы змусілі вярнуцца назад.

Жыць не было дзе. Дом згарэў. Пусціў да сябе знаёмы шавец Ганцэль. У хуткім часе гаротны лёс гэтага чалавека зрабіў іх гаспадарамі кватэры /першы Пугачоўскі завулак, д.12, кв. 1/. Кватэры, якая стала адным з асяродкаў падпольнага жыцця мінскіх патрыётаў.

З верасня 1941 г. па сакавік 1942 г. гэтыя чацвёра з сям"і Адамовічаў працавалі ў складзе падпольнай арганізацыі былых вайскоўцаў і цывільных асоб, настроеных патрыятычна, — Ваеннага савета партызанскага руху /ВСПР/. Арганізацыі, якая ставіла мэтай пашырэнне партызанскага руху ў ваколіцах Мінска. У першыя месяцы акупацыі, пакуль немцы яшчэ не разабраліся што да чаго, ваеннаслужачыя, скінуўшы форму, маглі яшчэ даволі вольна /шмат знаёмых, родзічаў і г.д./ пачуваць сябе ў горадзе. У першую чаргу яны і стварылі гэтую арганізацыю. Вядома, пры актыўнай дапамозе мясцовых жыхароў. Такіх як сям"я Адамовічаў.

У кватэры па Пугачоўскаму завулку нелегальна жыў начальнік штаба ВСПР І.Н.Бялоў. Неаднойчы тут праводзіліся пасяджэнні штаба, сустрэчы падпольшчыкаў. На кватэры Адамовічаў друкаваліся на машынцы /друкавала Алена/ загады па ВСПР, лістоўкі, захоўваліся зброя, медыкаменты, папера. Адамовічы, добра ведаючы горад, працавалі сувязнымі — даводзілі загады штаба ВСПР да іншых груп арганізацыі. Аб тым, што Адамовічы мелі вагу і ўплыў у ВСПР, сведчыць загад штаба № 3 ад 14 кастрычніка 1941 г., якім Адамовіч Аляксандр Абрагамавіч /падпольная мянушка «Алебовіч»/ і Адамовіч Ібрагім Аляксандравіч /"Боба"/ у ліку іншых 16 актывістаў прызначаліся камандзірамі будучых партызанскіх груп і атрадаў.

Дваццацічатырохгадовы Ібрагім Адамовіч /бацьку было каля 60/ па сутнасці быў кіраўніком гэтай сямейнай падпольнай групы. Меў вялікія сувязі сярод мінскай моладзі, былых студэнтаў. Змалку добра маляваў і, скарыстоўваючы гэтыя здольнасці, па-майстэрску падрабляў пячаткі акупацыйных устаноў, подпісы чыноўнікаў, вырабляў неабходныя дакументы. Разам з родзічамі з першых тыдняў фашысцкай навалы дапамагаў акружэнцам і ваеннапалонным, збіраў разведвальную інфармацыю. Хутка ў яго руках апынуліся шматлікія сувязі і яўкі, ён вылучыўся ў арганізатары падпольнай справы.

Вось як характарызуе яго А.Ф.Сакалоў, намеснік камандзіра брыгады «Народныя мсціўцы» імя В.Варанянскага:' "Я не ведаю, якую пасаду займаў т.Адамовіч у падпольным камітэце г.Мінска, аднак ведаю, што ў яго была сканцэнтравана ўся аператыўная работа. У яго меўся вялікі выбар аператыўных карт, быў набор шматлікіх нямецкіх пячатак і штэмпеляў, ён сабраў архіў фашысцкіх газет, якія выпускаліся ў Мінску".

Па злой іроніі лёсу Ібрагіма схапілі за дзень да таго, як ён павінен быў пайсці ў партызаны, — 25 сакавіка 1942 г. Позна ўвечары фашысты ўварваліся і на кватэру Адамовічаў /аб сям"і дазналіся па пашпарту Ібрагіма/, усіх арыштавалі. Але доказаў удзелу ў падпольнай барацьбе Аляксандра Абрагамавіча, Марыі Іванаўны і Алены ў гестапаўцаў не было. Праз нейкі час выпусцілі. Аднак Ібрагіма правакатары, якія выдалі арганізацыю, добра ведалі. Як паведамлялі з турмы, падчас апазнання здраднікі стаялі ў балахонах з проразямі для вачэй, і калі міма іх праводзілі людзей, паказвалі на падпольшчыкаў. Паказалі і на Ібрагіма.

Ён вынес усе катаванні і нікога не выдаў. Родным, якія да апошняга часу знаходзіліся ў Мінску і не страчвалі надзеі выратаваць яго, у красавіку 1942 г. здолеў пераправіць 6 кароценькіх лістоў. У іх — шчымлівае адчуванне непапраўнага, трывога за бацькоў, сястру, спроба папярэдзіць аб здрадніку, які мог нашкодзіць яшчэ многім. Аб блізкіх людзях ён непакоіўся да апошняга часу, прасіў сям"ю падумаць аб сваёй бяспецы. «Я сыду спакойны, калі буду ведаць, што вам добра...», — адзін з апошніх яго турэмных радкоў...

Разам з іншымі падпольшчыкамі Ібрагіма Адамовіча павесілі ў Мінску 7 мая 1942 г. Толькі пасля гэтага сям"я пакінула небяспечны Мінск і накіравалася на бацькаўшчыну, на Навагрудчыну.

*Уладзімір КУЗЬМЕНКА, кандыдат гістарычных навук.*

# ВЗОЙДУТ ЛИ СЕМЕНА

По состоянию на 3 ноября в Червенском районе очищено и поступило на проверку в семенную инспекцию 82 процента яровых зерновых и зернобобовых культур к потребности. Из проверенных 2,8 тысячи тонн, что составляет три четверти к потребности, 2,6 тысячи тонн (92 процента) отнесены к кондиционным. В том числе 78 процентов отвечают требованиям первого класса посевного стандарта. Так, еще в период уборки в совхозе «Нива» этого района засыпаны в закрома семена яровых зерновых и зернобобовых только первого класса.

Однако в ряде районов очистка и проверка семенных фондов во время уборки и после нее была отложена. И теперь, когда короче стал световой день, работа в складах только разворачивается. И вот результат. В целом по области под урожай 1995 года пробы семян яровых зерновых и зернобобовых представлены в государственные семенные инспекции только от 54,9 тысячи тонн семян, что составляет 60,3 процента к потребности. Вместе с тем хозяйствами Борисовского, Любанского и Мядельского районов на проверку представлено только от 30 до 44 процентов семенного фонда.

Вызывает тревогу и качество проверенных семян. В целом по области кондиционные семена составляют около 87 процентов к проверенным, а в Вилейском, Минском, Смолевичском и Мядельском районах их всего 60—77 процентов. Несмотря на благоприятные условия созревания и уборки семенных посевов выявляются партии некондиционных семян не только по чистоте, но и по влажности, всхожести.

Так, в хозяйствах Копыльского района хранится 240 тонн (7,2 процента от проверенных) некондиционных семян именно по всхожести. В Стародорожском районе таких семян 12,3 процента. В хозяйствах Мядельского района имеется 6 процентов некондиционных семян по влажности, часть которых уже утратила всхожесть.

В колхозах и госхозах Вилейского, Минского и Смолевичского районов, соответственно, от 35 до 20 процентов некондиционных семян по чистоте.

Обеспеченность первоклассным материалом на зерно по области составляет всего лишь около 28 процентов к потребности. Многие хозяйства до сих пор не приступали к очистке семенных фондов яровых зерновых и зернобобовых культур.

*Ирина УРБАНЧИК, главный агроном облгоссеминспекции.*

## Информация

**о качестве семян яровых зерновых и зернобобовых культур по состоянию на 3 ноября с.г. (в процентах)**

Графы: 1 — районы, 2 — проверено к потребности, 3 — из них кондиционных, 4 — в том числе первого класса, 5 — обеспеченность семенами первого класса на зерно.

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| Березинский | 94 | 95 | 6 | 6 |
| Борисовский | 30 | 90 | 26 | 12 |
| Вилейский | 33 | 60 | 21 | 10 |
| Воложинский | 54 | 81 | 22 | 16 |
| Дзержинский | 54 | 94 | 57 | 32 |
| Клецкий | 31 | 94 | 76 | 35 |
| Копыльский | 54 | 87 | 53 | 34 |
| Крупский | 52 | 88 | 10 | 7 |
| Логойский | 42 | 99 | 34 | 19 |
| Любанский | 41 | 89 | 43 | 24 |
| Минский | 100 | 63 | 18 | 25 |
| Молодечненский | 30 | 91 | 37 | 14 |
| Мядельский | 36 | 77 | 44 | 21 |
| Несвижский | 66 | 98 | 73 | 50 |
| Пуховичский | 36 | 89 | 46 | 49 |
| Слуцкий | 59 | 95 | 54 | 38 |
| Смолевичский | 53 | 75 | 48 | 38 |
| Солигорский | 40 | 94 | 47 | 24 |
| Стародорожский | 58 | 80 | 56 | 36 |
| Столбцовский | 54 | 96 | 50 | 33 |
| Узденский | 70 | 98 | 64 | 53 |
| Червенский | 78 | 92 | 78 | 63 |
| По области: | 53 | 87 | 42 | 28 |

■ Народныя таленты

# У ВІШНЯЎЦЫ ТАНЦОРЫ—МАЛАЙЦЫ

Атэстацыйная камісія абласнога цэнтра народнай творчасці, якую ўзначальваў заслужаны дзеяч мастацтва рэспублікі, галоўны балетмайстар Дзяржаўнага хору Беларусі В.В.Варановіч, прысвоіла ганаровае званне «ўзорны» дзіцячаму харэаграфічнаму калектыву «Вішанька» Вішнявецкага СДК Стаўбцоўскага раёна. Пракаменціраваць гэтую прыемную навіну я папрасіў загадчыка аддзела культуры райвыканкома Анатоля Васільевіча Грэкава.

— «Вішанька» свой першы канцэрт падрыхтавала ў 1982 годзе. З таго часу штогод удзельнічае ў аглядах-конкурсах мастацкай самадзейнасці, у раённых дзіцячых святах народнай творчасці «Альбуцкая крынічка». Сёлета была ўдзельнікам абласнога агляду-конкурсу дзіцячай самадзейнасці, тэлегульні «Спартландыя». Сярод харэаграфічных калектываў раёна «Вішанька» надзейна ўтрымлівае другое месца. Кожны год юныя артысты ў лютым і маі рыхтуюць творчыя справаздачы, з якімі выступаюць перад працаўнікамі мясцовага калгаса, бацькамі, педагогамі і навучэнцамі мясцовай школы. За сродкі калгаса імя Мічурына набыты танцавальныя касцюмы. Дарэчы, гаспадарка аплачвае і стаўку кіраўніка «Вішанькі» А.Г.Белановіч. Ала Генадзьеўна поўнасцю аддае сябе любімай справе і патрабуе гэтага ж ад удзельнікаў танцавальнага калектыву. А іх тут — 52, у тым ліку 12 хлопчыкаў. Цікавая, на мой погляд, і такая дэталь: кіраўнік «Вішанькі» змагла далучыць да танцавальнага калектыву кожнага чацвёртага вучня мясцовай школы.

А.Г.Белановіч шмат працуе над падборам рэпертуару. Галоўная ўвага ўдзяляецца беларускім танцам. Добрым густам, мяккасцю падачы вылучаюцца і эстрадныя танцы — «Фаіна», «У рытмах лета», «Чао, бамбіна», «Вікторыя», «З парасонамі» і інш.

Адным словам, Ала Генадзьеўна не любіць пратаптаных сцяжынак, яна многа шукае, паказвае добрыя прыклады смелай распрацоўкі новых тэм і вобразаў у мастацтве танца.

# ЭНЕРГАЗЛАДЗЕІ

Няцяжка здагадацца, што размова ідзе пра электраэнергію.

Паводле даных Салігорскага міжраённага аддзялення энерганагляду, толькі бытавыя абаненты горада і раёна з пачатку года ўкралі больш як 110 тысяч кілават-гадзін электрычнай энергіі. У ход ідзе ўсё: і «ўдасканаленне» лічыльнікаў, і схаваныя разеткі... Між тым, украдзенай энергіі хапіла б для патрэб школьных, медыцынскіх устаноў горада на працягу цэлага месяца!

Больш як шэсцьдзесят энергазладзеяў выкрыты. Яны вярнулі дзяржаве каля двух з паловай мільёнаў рублёў.

■ Будни армии

*На участке железнодорожного полотна, условно взорванного неприятелем, закипела работа по его восстановлению. Солдаты и офицеры работали быстро и сноровисто, чувствовался их профессионализм. Через определенное время поврежденное полотно железной дороги было восстановлено.*

*Так проходили учебно-показательные занятия на учебном полигоне, где были продемонстрированы техническое вооружение железнодорожных войск, их возможности, показана боевая выучка солдат и офицеров, умение активно и рационально использовать технику.*

*НА СНИМКАХ: моменты учебно-показательных занятий.*

*Фото Владислава БОСЬКО.*

Верить—не верить?

# РОКОВАЯ ДЕВЯТКА

**9 сентября исполнилось четыре года со дня гибели летчика-испытателя Римаса Станкявичуса. Трагедия произошла во время авиационного праздника в Италии, неподалеку от Венеции. При выполнении «мертвой петли» на истребителе СУ-27 он не сумел выйти из этой классической фигуры и с огромной скоростью врезался в землю. В результате погиб сам летчик и один из добровольцев, помогавших проведению праздника.**

Конечно, все можно было списать на счет самого Римаса, совершившего роковую ошибку, что начальнички и пытались сделать. Но в данном случае нельзя не принять во внимание класс летчика. Он освоил около 60 летательных аппаратов, был первым пилотом воздушного варианта корабля многоразового использования «Буран», прошел подготовку по программе полета в космос...

Накануне праздника он играючи выполнил ту же «мертвую петлю», как свидетельствуют очевидцы. И вдруг такая трагическая оплошность на глазах 40-тысячной публики. Только сейчас, на мой взгляд, возможно оценить необъективность обвинений в адрес пилота.

Ровно через четыре года, 9 сентября в 10 часов 30 минут с подмосковного аэродрома Раменское в воздух поднялись два самолета: лаборатория ТУ-134А и стратегический бомбардировщик ТУ-22М. В задачу первого входило фотографирование обтекающих потоков, возникающих вокруг модернизированного бомбардировщика. Самолеты направились в район испытательного полигона...

Экипажи еще не знали о трагедии, происшедшей приблизительно около 7 часов назад. на другом конце земного шара, в США. В штате Пенсильвания потерпел катастрофу Боинг-737 со 126 пассажирами и 5 членами экипажа на борту. При подлете к Питтсбургу самолет внезапно пошел вниз и на большой скорости спикировал на землю. Все находившиеся на борту погибли. Для американцев то был шок.

А в подмосковном небе самолеты вошли в зону испытаний. И вдруг с земли увидели, что в воздухе произошло их сближение. ТУ-22М, совершая маневр, внезапно протаранил хвостовую часть ТУ-134, отбив у него стабилизатор. Самолет - лаборатория начал неуправляемо падать, несмотря на все попытки экипажа спасти машину. Взрыв произошел в 20 километрах от Егорьевска.

В этот же день могла произойти еще одна трагедия. При заходе на посадку в аэропорту Тирструп (Дания) авиалайнер «Макдональд Дуглас МД-82» задел крылом каток для укладывания асфальта. По чистой случайности пилотам удалось спасти ситуацию...

Как понять подобную насыщенность авариями различных уголков планеты 8—9 сентября 1994 года?

Происшедшие события синхронизированы практически в пределах суток, а это объективно может означать следующее: в данный период существовал некий источник возмущения, приведший к катастрофам в планетарном масштабе. Подобное возмущение, воздействуя на приборы, могло привести к искаженным показаниям, например, пространственных характеристик.

Характерна в этом плане катастрофа теплохода «Адмирал Нахимов» ночью 31 августа 1986 года. Сама авария просто поражает своей алогичностью: в условиях удовлетворительной видимости, при наличии радиоконтакта между судами происходит столкновение «Адмирала Нахимова» и сухогруза «Петр Васев». Характерно, что в тот же день в США случилась крупная авиационная катастрофа. Над Лос-Анджелесом в воздухе столкнулись авиалайнер ДС-9 мексиканской авиакомпании «Аэро-Мехико» с двухместным частным самолетом. Обломки упали на жилые дома, похоронив 72 человека.

Итак, две крупнейшие катастрофы — на воде и в воздухе— в один день. Каковы могут быть предположительные причины такого немыслимого совпадения? Обратимся к имеющимся данным по развитию событий во время гибели теплохода «Нахимов». Вот как описывает ситуацию, предшествующую столкновению, капитан сухогруза «Петр Васев» Виктор Ткаченко (по книге Н. Черкашина «Последний рейс «Нахимова»).

«Я включил САРП — систему автоматической радиолокационной прокладки курса... Поручил Зубюку следить за пеленгами на «Нахимове». А сам наблюдал «Нахимов» в приборе САРП. САРП выдал мне кратчайшее расстояние между судами в две мили (около четырех километров). Затем САРП показал уменьшение расстояния до одной мили...»

Из акта психоэкспертизы: «Ткаченко зачастую доверял приборам больше, чем ощущениям».

Ткаченко: «Я считал, что поскольку вектор относительного движения проходит по корме, то мы нормально разойдемся».

Журналист Ф. Зинько: «На мостике «Васева» капитан Ткаченко неотрывно смотрел в тубус САРПа — системы, которая позволяет проиграть на экране варианты расхождения судов. Отличная машина, умная».

Третий помощник Зубюк. «Обычно капитан был суетлив при входе в порт, а здесь — необычайно спокоен».

Журналист Ф. Зинько: «Зубюк несколько раз напоминал капитану: пора отворачивать — на курсе появился ярко, словно новогодняя елка, освещенный пассажирский лайнер. Но Ткаченко, припав к тубусу, только отмахивался: «Не паникуйте, штурман, машина показывает красивое расхождение».

...До катастрофы оставались мгновения. Сейчас выясняется, что в результате расследования, проведенного Ассоциацией морских капитанов Одессы, выявились значительные противоречия: радиолокационные наблюдения велись за неким «третьим» судном, а переговоры шли с «Нахимовым». И это третье судно остается до сих пор загадочным «летучим голландцем». Но, по всей вероятности. его попросту не было.

Причиной несоответствия показаний системы автоматической радиолокационной прокладки курса (САРП) реальной картине могла стать сложная геофизическая ситуация. Воздействие полей на аппаратуру и человека привело к неправильным показаниям. И чтобы все увязать, специалистам ассоциации приходится ввести третье судно, находившееся несколько дальше. Обратите внимание, в эти же дни столкнулись вертолеты США в Норвегии (9 человек погибли). Да еще потерпел аварию бразильский транспортный самолет.

Что же могло вызвать глобальное возмущение геополей? На мой взгляд, весьма важно, что в этот день произошли сильные землетрясения в Румынии (6,8 балла, глубина 132 км), колебания почвы ощущались на значительной части европейской территории СССР, в том числе и в Москве. Несколько позже землетрясение произошло в Японии (6,1 балла).

Масштабность процесса говорит о возможном космическом происхождении. Серьезным аргументом в пользу этого является совпадение дат происшедших воздушных катастроф в 1990 и в 1994 годах — 8—9 сентября. К тому же, в 1993 году на эти числа приходится авария, аналогичная по схеме Егорьевской. Над Персидским заливом столкнулись два самолета США А-6, базировавшиеся на авианосце «Авраам Линкольн». В это же время над Балтийским морем потерпел аварию самолет ВВС США «Торнадо».

Совпадение дат экстремальных событий в различные годы хотя и имеет некий мистический налет, но на самом деле может быть объяснено вполне рационально. В это время Земля занимает идентичные положения на своей околосолнечной орбите. И если там существует некое пространственное возмущение физических полей, на планете и будут разыгрываться в глобальном масштабе экстремальные события.

Станкявичуса обвинили, что он якобы плохо знал местность, неправильно оценил высоту, так как к тренировкам приступил недавно, заменив попавшего в авиакатастрофу коллегу. Но ведь накануне все было нормально. Фигуры выполнялись идеально.

Становится достаточно ясно, что, попав в изменяющиеся поля, аппаратура выдала искаженные показания, в конце концов приведшие к трагедии (вспомним «Нахимов»: «Приборы дают прекрасное расхождение...»).

Эффекты могут быть усилены, если данный период совпадает, например, с увеличением солнечной активности или с особым положением небесных тел.

Сейчас настоятельно необходимо изучение тех «ухабов», которые встречает Земля на своем космическом пути. Подобные идеи частично заложены в интегральный астрогеофизический прогноз, публикуемый в течение 5 лет группой под руководством заведующего гелиометрической лабораторией ВИМС И. Яницкого, в которую входит и автор.

Однако необходимо его активно внедрять в жизнь. До тех пор, пока это не будет учитываться в реальных ситуациях, нас ждут, полагаю, «беспричинные» падения самолетов, будут совершать кажущиеся элементарными ошибки опытные летчики и судорожно хвататься за подлокотники кресел перед гибелью тысячи пассажиров...

**П. ГОЛУБ, старший преподаватель Брянского педагогического института, член комиссии прогноза чрезвычайных ситуаций.**

*"Труд"*

# РУКА Ў РУЦЭ

Прахожыя ўглядаюцца ў вокны прыгожага сялянскага дома. Ён звычайны, не звязаны з гістарычнымі падзеямі. У гэтым доме жывуць муж і жонка Ярашы.

...Бягуць гады, пакідаючы ў памяці значныя падзеі і дробныя выпадкі, дабаўляючы маршчын на твары, асядаючы ў сямейным альбоме фотаздымкамі, праглядваючы якія, Соф"я Антонаўна і Павел Пятровіч быццам вяртаюцца ў мінулае.

Сустрэліся яны ў цяжкія пасляваенныя гады, зблізіў лёс: абое былі сіротамі. Соф"я Антонаўна працавала ў паляводстве, Павел Пятровіч — трактарыстам у родным калгасе «Новае жыццё» Нясвіжскага раёна. На дружную сям"ю любаваліся аднавяскоўцы. Старанныя, працавітыя, муж і жонка Ярашы шчыравалі і на калгаснай працы, і ў сваёй гаспадарцы. Самастойна пабудавалі дом. Хутка ён напоўніўся дзіцячымі галасамі: нарадзіліся сын і дачка.

Паслухмяны, гаспадарлівы вырас сын. Бацькоўская парада —не баяцца любой работы — вельмі спатрэбілася яму. Паспяхова закончыў сельгасакадэмію і працуе зараз аграномам-хімікам у родным калгасе. Дачка — кандытар, працуе ў Снове.

...З маленства Ярашы любілі працаваць на зямлі. З яе і жывуць. Поле, лес вакол родных Коханавічаў сваімі нагамі схадзілі. Усе лепшыя гады аддалі калгаснай гаспадарцы. Зараз яны на пенсіі, але ў гарачую пару іх можна бачыць у калгасе на сяўбе, уборцы.

Рабочы дзень у Ярашаў пачынаецца рана, трэба ўправіцца па гаспадарцы: своечасова падаіць карову, накарміць яе і свіней, авечак, птушку.

Кажуць, што шчаслівыя сем"і падобныя адна на адну. Але кожная з іх разумее гэта па-свойму. Для Ярашаў шчасце не ва ўласным дабрабыце. Ісці па жыцці побач, падтрымліваючы адно аднаго і ў радасці, і ў горы, захаваць у сэрцы пяшчоту і ўдзячнасць — вось яно, сапраўднае шчасце!

*Іван БУБЕН.*

# «ПАДПОЛЬНЫЯ» ПРАДПРЫЕМСТВЫ

Калі лічыць па месцы рэгістрацыі, то ў Мінскім раёне налічваецца больш шасцісот прадпрыемстваў недзяржаўнай формы ўласнасці. Заснавальнікамі некаторых з іх з"яўляюцца жыхары Мінска. Справа ў тым, што рэгістрацыя ствараемых прадпрыемстваў вядзецца не толькі па месцы жыхарства аднаго з заснавальнікаў, але і па месцы размяшчэння офісаў, якія не заўсёды знаходзяцца там, дзе значацца па дакументах. У выніку такой неразбярыхі пасля шматлікіх напамінкаў 9 прадпрыемстваў недзяржаўнай формы ўласнасці да гэтага часу так і не перарэгістраваліся, хаця павінны былі зрабіць гэта яшчэ ў мінулым годзе. Як аказалася, яны не займаюцца ніякай вытворчай дзейнасцю.

*Анатоль ВАРОНІНСКІ.*

